№ 65 (4112)

www.nv-online.info

23 жніўня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля



# Будзем з хлебам!




ЧУЛІ?

## Больш за 3000 мінчан супраць ваенных парадаў

Вядомы блогер Антон Матолька склаў петыцыю аб забароне на правядзенне парадаў з выкарыстаннем ваеннай тэхнікі ў межах сталіцы. Зварот падпісалі больш за 3 тысячы мінчан. Галоўныя аргументы супраць такіх парадаў – шум, забруджванне паветра, сапсаваныя дарогі, транспартны калапс.

Зварот быў накіраваны ў Мінгарвыканкам, Адміністрацыю прэзідэнта і Міністэрства абароны. Першымі адказалі чыноўнікі гарвыканкама. Але, па словах Матолькі, гэта была хуткая адпіска, заклік да патрыятызму. «*Ваенныя парады ў Рэспубліцы Беларусь – гэта даніна гераізму і стойкасці нашага народа, самаадданай барацьбе супраць фашысцкіх захопнікаў*», – гаварылася ў дакуменце.

Але днямі прыйшоў адказ з Савета бяспекі. З дакумента вынікае, што цяпер вядзецца дэталёвая прапрацоўка паднятых у звароце праблем. У лісце паведамілі, што для завяршэння гэтай працы патрабуецца больш часу, чым месячны тэрмін і абяцалі адказаць пазней.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

В МИРЕ

## Трамп потратил 420 тысяч долларов на кепки

Команда кандидата в президенты в США Дональда Трампа в прошлом месяце вдвое увеличила расходы на проведение предвыборной кампании. Но это все равно существенно меньше, чем тратит главный оппонент Трампа – Хиллари Клинтон.

В июле штаб Трампа потратил 18,5 млн долларов, а команда Клинтон – 38 млн долларов.

Сообщается, что более 420 тысяч долларов Трамп потратил на изготовление фирменных кепок.

## В Китае открыли самый длинный и самый высокий стеклянный мост

Пешеходный мост, длина которого составляет 430 метров, построен на высоте 300 метров и соединяет два горных утеса в национальном парке Чжанцзяцзе, где проходили съемки фильма «Аватар». Ширина моста составляет 6 метров.

На строительство моста было потрачено 3,4 млн долларов. Пол моста состоит из 99 прозрачных плит, изготовленных из трехслойного стекла.

## Тракторный марш на Москву

Фермеры из Краснодарского края отправились на тракторах в Москву, чтобы встретиться с представителями федеральных властей. Участники акции хотят рассказать чиновникам о коррупции и рейдерских захватах в регионе.

По данным издания, колонна из 17 тракторов и нескольких десятков автомобилей двинулась в сторону соседней Ростовской области. Как сообщил один из организаторов акции Василий Мельниченко, в первые часы колонну семь раз останавливали полицейские. Перед началом тракторного пробега в станице Казанская прошел митинг под лозунгом «Верните нашу землю!».

ЖАХ!

## Вагончык «амерыканскіх горак» насмерць збіў адміністратара

Здарэнне адбылося ўчора ў сталічным парку **Чалюскінцаў** на вачах у дзясятка людзей, якія адпачывалі ў парку.

«*Адміністратар, мужчына 1959 года нараджэння. Па папярэдняй інфармацыі ён убачыў, што на рэйкі нешта ўпала. Рэч, якая належала аднаму з пасажыраў цялежкі. Ён паспрабаваў дастаць і ў выніку быў смяротна траўміраваны*», – расказаў журналістам прэс-сакратар мінскай міліцыі **Аляксандр Ластоўскі.**

ДИПКУРЬЕР

## В Минск прибыл Роберт Райли

Новый поверенный в делах США в Беларуси Роберт (Боб) Райли прибыл в Минск 22 августа. До назначения в Беларусь Боб Райли занимал должность политического советника и был исполняющим обязанности заместителя посла США в Венгрии.

На сегодня в Посольстве США в Беларуси разрешено работать девяти дипломатам.

Рассмотрение вопроса о возвращении в Беларусь американского посла возобновится после сентябрьских парламентских выборов в Беларуси и президентских выборов в США, которые состоятся в ноябре, сообщал накануне отъезда из нашей страны прежний глава американской дипмиссии в Минске Скотт Роланд. Он покинул Беларусь 8 июля. Перед отъездом дипломат отметил значительное улучшение белорусско-американских отношений за последние два года.

АСОБА

## Віктар ЯНЧУРЭВІЧ: «Пляшка піва, тэлевізар і канапа – гэта не маё»

*Маладыя, адукаваны, інтэлігентны. З пачуццём гумару і двума вышэйшымі адукацыямі. З уласнай годнасцю і вялікім жаданнем дапамагаць людзям.*

*Карэспандэнт "Народнай Волі" пагутарыў з 36-гадовым сябрам руху "За свабоду" **Віктарам ЯНЧУРЭВІЧАМ**, які сёлета балатуецца кандыдатам у Палату прадстаўнікоў шостага склікання па Партызанскай акрузе № 110 г.Мінска.*



– Я нарадзіўся ў вёсцы Багушоўка Гродзенскага раёна, – распавядае пра сябе суразмоўца. – Да 2002 года жыў з бацькамі ў Гродне, закончыў з чырвоным дыпломам Гродзенскі ўніверсітэт імя Янкі Купалы.

**– Чаму вырашылі паступаць менавіта на юрфак?**

– Тут вялікіх ваганняў не было. Аднойчы, калі яшчэ толькі пачаў вучыцца ў школе, настаўнік запытаў у мяне: "Кім ты хочаш быць?" Адказаў, што мару працаваць, як і бацька – чыгуначнікам. Распавёў пра гэта дома, мама, памятаю, тады мне сказала: "Сынок, чыгуначнік – гэта добра, але ж ты імкніся да большага. Юрыст – добрая прафесія…" Мне гэтыя словы моцна запалі ў душу, захацелася і праўда больш даведацца: хто ж яны – юрысты? Аказалася, што гэта спецыялісты, якія ведаюць законы і добра разбіраюцца ў праве. Зацікавіўся. Пасля школы падаў дакумент на юрфак. І паступіў, можна сказаць, без праблем.

**– Быць выдатнікам ва ўніверсітэце – гэта вельмі складана?**

– Складана, але я ніколі не быў, як кажуць, "батанікам". Вучоба давалася, можа быць, крыху лягчэй, чым іншым, але заняткі не прагульваў, праслухоўваў усю праграму. Не хачу хваліцца, але да вучобы ставіўся адказна.

Пасля ўніверсітэта пераехаў у Мінск, працаваў у некалькіх фірмах. Хацелася росту і развіцця. Атрымаў яшчэ адну адукацыю (закончыў вучобу на факультэце Вышэйшай школы кіравання і бізнесу Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта), зараз працую намеснікам дырэктара кампаніі, якая займаецца бухгалтарскімі паслугамі.

**– Але, наколькі вядома, вы не толькі працуеце ў фірме, але займаецеся і грамадскай дзейнасцю…**

– Так, а пачалося ўсё з таго, што ў 2008 годзе я таксама вылучаў сваю кандыдатуру на парламенцкіх выбарах па Каліноўскай выбарчай акрузе ў Першамайскім раёне сталіцы. Тады да мяне, як да кандыдата ў дэпутаты, звярнуліся мясцовыя жыхары, каб я ўзняў праблему Севастопальскага парка, на месцы якога хацелі зрабіць забудовы. Восем гадоў таму я, як уключыўся ў гэты працэс, так да гэтага часу гэтай справай і займаюся. Маю на ўвазе абарону правоў і інтарэсаў мінчан.

**– Чалавеку з бізнесу, напэўна, было няпроста працаваць у іншай сферы?**

– Сфера і праўда спачатку была незразумелая, але даволі хутка разабраўся ў рознага кшталту нюансах – як трэба дзейнічаць у той ці іншай сітуацыі, як можна ўздзейнічаць на чыноўнікаў… Паступова пачаў больш працаваць з нарматыўнымі дакументамі, каб мець юрыдычнае абгрунтаванне парушэнняў, якія маюцца ў тых праектах, што прапаноўваюць гарадскія ўлады. Дарэчы, з чыноўнікамі заўсёды цяжка размаўляць, бо яны ж прасоўваюць свае праекты. І вельмі складана іх пераканаць, што не ўсе іх прапановы – гэта добра для людзей і для горада. Падчас сустрэч чыноўнікі могуць ветліва ўсміхацца вам у твар, абяцаць дапамогу, але ў выніку зробяць усё па-свойму. Такая вось няпростая публіка.

**– Але ж Севастопальскі парк вы адстаялі.**

– Севастопальскі парк абаранілі дзякуючы актыўнасці мясцовых жыхароў. Сам праект быў вельмі спрэчны, і мы выступілі з ініцыятывай правесці мясцовы рэферэндум за захаванне парку. Сабралі ініцыятыўную групу, падалі дакументы на яе рэгістрацыю… Праўда, атрымалі адказ, што развіццё горада рэгламентуецца генеральным планам, які ў сваю чаргу зацвярджаецца ўказам кіраўніка краіны, а таму такі план фактычна становіцца законам. І закон нельга змяніць нейкім мясцовым рэферэндумам. Але ж нашы намаганні не былі дарэмнымі. Улады зразумелі, што ў справе абароны парку грамадскасць гатова да рашучых дзеянняў. Можна сказаць, што на сёння тэрыторыя парку абаронена, у мінулым годзе праходзіла грамадскае абмеркаванне карэкціроўкі генеральнага плана і з тэрыторыі парку прыбралі аўтамабільную дарогу, якая павінна была стаць працягам вуліцы Філімонава. Засталося толькі дамагчыся праекта добраўпарадкавання парку.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

АРЫШТ

## Колькі вяровачцы ні віцца…



Канец мінулага тыдня быў адзначаны сапраўдным скандалам: на сваім працоўным месцы "людзі ў масках" затрымалі дырэктара мінскай нацыянальнай гімназіі №4, заслужанага настаўніка рэспублікі **Юрыя Бандарэнку**.

КДБ даў тлумачэнні: прычына затрымання – хабар у 500 долараў.

Вось так: 25 гадоў у кіруючым крэсле і раптам – кайданкі на руках. Але, як кажуць, колькі вяровачцы ні віцца, а канец будзе. Апошнім часам у самой гімназіі хадзіла нямала чутак пра "няправільныя паводзіны" дырэктара.

Таму бацькі некаторых вучняў у сваіх каментарыях дзівяцца, чаму праваахоўныя органы так доўга не заўважалі гэтых "няправільных паводзін" Ю.М.Бандарэнкі.

Цікавая гісторыя спробы паступлення ў 7-ы клас гімназіі №4 адбылася з сынам вядомага акцёра Купалаўскага тэатра Паўла Южакова-Харланчука. Дырэктар адмовіў у прыёме на той падставе, што сям'я жыве ў Мінскім раёне. Але ж нямала дзяцей з раёна вучыцца ў гэтай беларускамоўнай навучальнай установе. Ганна Южакова-Харланчук, жонка Паўла, распавяла:

– Мы ведалі, што ў гімназіі ёсць месцы і рыхтаваліся да паступлення ўсё лета. Спачатку папрасілі дырэктара даць нам пісьмовую адмову ў прыёме дзіцяці. Але афіцыйнага ліста з гімназіі не дачакаліся. Тады муж напісаў дырэктару сам – каб усё-такі прымусіць яго даць адказ. І што ж? За дзве гадзіны да экзаменаў нам патэлефанавалі з гімназіі і сказалі, што мы можам удзельнічаць у іспытах! Такая ласка… Мы былі ў шоку. Уласна, як і зараз, калі дазналіся аб хабары Бандарэнкі...

У КДБ паабяцалі крыху пазней даць больш поўную інфармацыю аб прычынах затрымання дырэктара сталічнай гімназіі №4.

**Вікторыя ДРОЗД.**

ВІНШУЕМ!

## Васілю Шарапаву – 100!

*25 жніўня свой юбілей адсвяткуе адзін з уплывовых пасляваенных беларускіх чыноўнікаў.*


Васіль Шарапаў у чэрвені 2016 года.

Васіль Шарапаў нарадзіўся на тэрыторыі сучаснага Крупскага раёна яшчэ ў часы Расійскай імперыі, 25 жніўня 1916 года. Працаваў памочнікам машыніста і машыністам. Служыў у арміі, падчас вайны ў баях пад Оршай страціў нагу.

Мінчанам Васіль Іванавіч запомніўся працай на двух уплывовых пасадах: старшыні Мінгарвыканкама (1954–1968) і першага сакратара Мінскага гаркама (1968–1972). Менавіта пры непасрэдным удзеле Шарапава сталіца Беларусі набыла сучаснае аблічча. Але потым ён стаў міністрам будаўніцтва і эксплуатацыі аўтамабільных дарог БССР (1972–1989). Дзякуючы яму беларускія дарогі яшчэ тады лічыліся аднымі з найлепшых у Савецкім Саюзе.

Тры гады таму, у 97-гадовым (!) узросце, В.Шарапаў напісаў кнігу ўспамінаў "Нас время ставит на свои места". Аматар гісторыі знойдзе ў ёй падрабязнасці пра ўзаемаадносіны аўтара з чатырма лідарамі БССР (Мазуравым, Машэравым, Кісялёвым і, у меншай ступені, Слюньковым), і невядомыя факты пра гісторыю Мінска.

Цікава, што зусім нядаўна, 29 чэрвеня гэтага года, Шарапаў стаў ганаровым грамадзянінам сталіцы.

### Дарэчы

Цікава, што на статус доўгажыхароў прэтэндуюць і былыя кіраўнікі Беларусі. Старэйшым з іх з'яўляецца 90-гадовы **Яфрэм Сакалоў**, які ўзначальваў БССР падчас так званай перабудовы (1987–1990). Ён нарадзіўся ў красавіку 1926 года. На тры гады маладзейшы за Сакалова яго папярэднік на пасадзе першага сакратара ЦК КПБ **Мікалай Слюнькоў,** які стаў нават членам Палітбюро ЦК КПСС. Апошняму лідару БССР **Анатолю Малафееву** (1990–1991) – 83 гады (ён нарадзіўся ў 1933-м). Зрэшты, ад іх не надта адстае "белавежскі зубр" **Станіслаў Шушкевіч**. У снежні першаму кіраўніку незалежнай Беларусі (1991–1994) споўніцца 82 гады.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
23 ЖНІЎНЯ 2016 г.

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ



Виталий ГАРБУЗОВ

# Недаплылі, недабеглі, недакінулі?

Чарговая летняя Алімпіяда стала здабыткам гісторыі. Для суверэннай Беларусі гэта выступленне самае горшае ў гісторыі – нашы атлеты заваявалі толькі дзевяць медалёў.

Да такога выніку можна ставіцца па-рознаму. Для спецыялістаў з аналітычнай групы пры Міністэрстве спорту і турызму ён быў прадказальным: экперты прагназавалі, што з Бразіліі беларусы прывязуць 7–8 медалёў. А вось для старшыні Нацыянальнага Алімпійскага камітэта краіны выступленне беларусаў наўрад ці стала цалкам задавальняючым. Аляксандр Лукашэнка, які даволі даўно на безальтэрнатыўнай аснове ўзначальвае не толькі краіну, але і НАК Беларусі, захоўваў маўчанне цягам першага алімпійскага тыдня.

За гэты час там, у Бразіліі, чыноўнікі беларускай дэлегацыі паспелі запанікаваць – за шэсць алімпійскіх дзён медальная скарбонка нацыянальнай каманды была пустая. Для выпраўлення сітуацыі на месцы было зроблена некалькі захадаў. Па-першае, у лепшых традыцыях савецкай каманднаадміністрацыйнай сістэмы была склікана тэрміновая нарада, дзе кожнаму спартсмену было даведзена: трэба змагацца за самы высокі вынік. Нібыта раней нашы атлеты гэтага не ведалі. Па-другое, да беларускай зборнай быў выклікаsuccessive святар, які заклікаў нам на дапамогу вышэйшыя сілы.

Што з гэтага спрацавала: боязь чыноўнікаў згубіць уласныя крэслы ці Божая дапамога, сказаць цяжка, аднак «медальная засуха» для беларусаў скончылася. І тады Аляксандр Рыгоравіч не стрымаўся і выказаўся. У сваім непаўторным стылі: *«Некаторыя паказваюць вынікі горшыя, чым да Алімпіяды пры адборы. Чаго паехалі»?* Можа, менавіта такі пасыл, на думку старшыні НАК, павінен быў разняволіць беларускіх атлетаў, але нешта падказвае, што выйшла наадварот. Бо прынцып «спорт па-за палітыкай» у нашай краіне не працуе. Айчынныя спартсмены, якія выступаюць на значных міжнародных спаборніцтвах, заўжды азіраюцца на чыноўнікаў і на кіраўніка дзяржавы таксама: «А што ён скажа, а што будзе ў выпадку правалу»? Такіх прыкладаў шмат: пасля няўдачы на адным з топтурніраў нашай хакейнай зборнай кімсьці з гаспадароў высокіх кабінетаў было заяўлена, што наш варатар павінен быў «лавіць шайбу зубамі», бо дзяржава ўклала грошы, а раз вынік дрэнны, то і сродкі гэтыя трэба вярнуць. Пасля мінулай летняй Алімпіяды, якая была на той момант самай немедальнай, Аляксандр Лукашэнка таксама шукаў вінаватых, абяцаў з усімі разабрацца і перагледзець падыходы дзяржавы ў спартыўнай сферы.

Прайшлі чатыры гады. Вынік стаў яшчэ горшым і напярэдадні чарговага Алімпійскага сходу рызыкну выказаць меркаванне, што разбор палётаў будзе падобным: «Дзяржава вам дала грошы, а вы не апраўдалі даверу... Вінаватыя будуць пакараны». Пошук вінаватых – гэта своеасаблівая фішка нашага палітычнага ды і спартыўнага кіраўніцтва. І пошук гэты, як правіла, заканчваецца так: мы, чыноўнікі, усё для вас робім, а вы, спартсмены, вінаватыя. Недаплылі, недабеглі, недакінулі...

І нашы любімыя спартсмены, што аддавалі апошнія сілы на спаборніцтвах у Рыа, будуць сядзець на тым Алімпійскім сходзе з апушчанымі галовамі, пагаджацца і маўчаць. Ці знойдзецца хоць адзін атлет, які скажа, што спорт – гэта не матэматыка, дзе ўсё дакладна і вывераца, што кожны старт – ён розны і магчымы правалы. У канкрэтны дзень, у канкрэтным месцы спартыўны вынік можа быць абсалютна розным. І загадзя вешаць медаль на шыю няправільна.

Ці знойдзецца той, хто скажа, што пачынаць фінансаванне вялікага спорту трэба з самых нізоў. Бо дзіцячы трэнер па боксе, які атрымлівае за сваю працу 230 рублёў у месяц, наўрад ці зможа думаць 24 гадзіны ў суткі пра тое, як падрыхтаваць алімпійскага чэмпіёна. Хутчэй за ўсё, ён думае, як выжыць і дзе б яшчэ падзарабіць...

Наўрад ці будуць гучаць галасы наконт таго, што маленькай па еўрапейскіх мерках і не самай багатай Беларусі не варта распыляцца на ўсе, нават даволі экзатычныя для нашай краіны віды спорту, а варта акрэсліць з дзясятак дысцыплін, у якіх мы можам вызначыцца...

Для таго, каб гэтыя пытанні паставіць, беларускім атлетам не патрэбна спартыўная адвага і спрыт. Дастаткова грамадзянскай мужнасці. Ці ёсць яна? Паглядзім. Чакаць засталося нядоўга...











АЛІМПІЯДА-2016



# Ібрагім паставіў кропку…

У апошні дзень спаборніцтваў на Алімпіядзе ў Рыа ў беларусаў былі медалёвыя спадзяванні на алімпійскі п’едэстал зборнай Беларусі па мастацкай гімнастыцы ў групавых практыкаваннях, але, на жаль, толькі пятыя. Не ўсё тое, пра што марым, здзяйсняецца.

Хіба думала лёгкаатлетка **Аліна Талай**, што зачэпіцца за бар’ер і не патрапіць нават у фінал? Безумоўна, не. Хіба спадзявалася гімнастка **Меліціна Станюта**, што падчас спаборніцтваў у індывідуальным шматбор’і ўпусціць булаву, што паўплывае на вынік – 5-е месца? Магчыма, толькі ў страшным сне. Але гэта спорт, у якім ёсць месца не толькі для подзвігу, але і памылак, ад якіх ніхто не застрахаваны. Спартсмены – не робаты, а жывыя людзі.

Але ж нельга не адзначыць і герояў. Беларускі кідальнік молата **Іван Ціхан** – гэта сапраўды ўзор мужнасці! Спартсмен, якому 24 ліпеня споўнілася 40 гадоў, прайшоў перад Алімпіядай у Рыа агонь, ваду і медныя трубы. Перамогі, допінгавыя скандалы, дыскваліфікацыя, апраўданне… Звычайны чалавек на ўсё гэта даўно махнуў бы рукой ды падаўся на больш спакойную работу. Але, відаць, Іван вырашыў у першую чаргу даказаць самому сабе, на што здатны чалавек. Таму сярэбраны медаль Ціхана на гэтых Гульнях – гэта і праўда, як золата.

А апошні медаль для беларускай зборнай на Алімпіядзе ў Бразіліі заваяваў на спаборніцтвах па вольнай барацьбе **Ібрагім Саідаў**, які ў суцяшальным паядынку выйграў “бронзу”.

Такім чынам, Беларусь на гэтых гульнях у неафіцыйным медалёвым заліку заняла 40-е месца. На рахунку нашай каманды 9 медалёў:

**золата** (**Уладзіслаў Ганчароў** – батут);

**серабро** – (**Марыя Мамашук** – вольная барацьба, **Іван Ціхан** – кіданне молата, **Дар’я Навумава** і **Вадзім Стральцоў** – цяжкая атлетыка);

**бронза** (**Аляксандра Герасіменя** – плаванне; **Марына Літвінчук/Маргарыта Махнёва/Надзея Ляпешка/Вольга Худзенка** – байдарка; **Джавіт Гамзатаў** – грэка-рымская барацьба; **Ібрагім Саідаў** – вольная барацьба).

**Алесь СІВЫ.**

РЭКАНСТРУКЦЫЯ

# Як выглядае сёння сталічны стадыён «Дынама»?

*Галоўную сталічную спартыўную арэну плануюць адкрыць у 2017 годзе.*

Нагадаем, што легендарны мінскі стадыён закрылі на рэканструкцыю яшчэ ў 2012 годзе, завяршыць яе планавалі праз два гады. Не атрымалася.

У 2014 годзе стала вядома, што ў будучым “Дынама” пераўтворыцца ў лёгкаатлетычны комплекс. Кошт праекта – 150 мільёнаў долараў, першапачатковы тэрмін завяршэння работ – 2017 год. Паводле слоў дырэктара КУП “Упраўленне капітальнага будаўніцтва” Дзмітрыя Мікулёнка, у гэтым годзе на рэканструкцыю арэны плануецца патраціць каля 600 мільярдаў рублёў.

Зараз будаўнічыя работы ідуць на “Дынама” поўным ходам, так што будзем спадзявацца, што ўжо ў наступным годзе балельшчыкі змогуць назіраць за спаборніцтвамі на абноўленым стадыёне.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



ШАХМАТЫ

## С берегов Двины

Задача на диаграмме принадлежит Николаю Бантышу (1938–2012), в свое время одному из сильнейших белорусских составителей. Офицер по профессии, он последние десятилетия жил в Витебске. Шахматной композицией увлекся еще в школьные годы. Опубликовал около 200 задач, многие из которых были отмечены на конкурсах. Был призером чемпионатов Беларуси по составлению.

**Белые:** Кра7, Фа3, Cb1, Kd6, пb4 (5).

**Черные:** Kpd4, пп.b2, d7, e3 (4).

Мат в 3 хода.

Присылайте решения на адрес редакции (220030, г.Минск, ул.Энгельса, 34а) или на электронный адрес: **vadim_ne67@mail.ru**

## В ряду корифеев

Первым белорусским международным мастером по шахматам (1950 год) был Гавриил Вересов (1912–1979). Многократный чемпион Беларуси, звание мастера спорта он получил еще в предвоенные годы. Не раз успешно состязался со знаменитыми гроссмейстерами в чемпионатах СССР (в 1940 году разделил седьмое место, в 1944-м – восьмое). Прошел войну фронтовым корреспондентом, в послевоенные годы занимал ряд руководящих должностей, преподавал в вузах, стал кандидатом исторических наук, возглавлял республиканскую шахматную федерацию. В составе сборной БССР выступал в международных матчах, был бронзовым призером Спартакиады СССР 1963 года. Его именем назван дебют 1.d4 d5 2.Кc3. О Вересове написано несколько книг, снят документальный фильм, а ряд его партий является хорошим учебным материалом.

**Г.Вересов – В.Желяндинов** (Минск, 1969). 1.d4 Kf6 2.Кc3 d5 3.Cg5 Kbd7 4.Kf3 e6 5.e4 h6 6.Ch4 g5 7.Cg3 К:e4 8.К:e4 de 9.Kd2 Cg7 10.h4 C:d4 11.c3 gh 12.Л:h4 Cf6 13.Фh5 Cg5 14.К:e4 Лg8 15.Лg4 a6 16.Лd1 e5 17.Ch4 Фe7 18.Cc4 Kf6 19.Л:g5!! hg 20.C:f7+! Kpf8 21.К:f6, 1:0 (за кадром остался красивый финал: 21…Ф:f6 22.C:g8 gh 23.Лd8+! Ф:d8 24.Фf7х или 23…Kpg7 24.Фh7х).

Недавно в Минске состоялся очередной мемориал Вересова (92 участника): 1.Виталий Мерибанов; 2.Евгений Подольченко; 3.Валерий Смирнов.

## Турнирные новости

На Всемирной юношеской олимпиаде в Словакии Беларусь – 6-я из 54 сборных, а Михаил Никитенко завоевал «серебро» среди лидеров команд. Алексей Федоров занял третье место в Воронеже (124 участника). Турнир в Ереване (62 участника) выиграл Андрей Жигалко, третьим был Владислав Ковалев. На турнире в Венгрии второе место занял Андрей Ковалев. Кирилл Ступак выиграл турнир «Балтийская жемчужина» и мемориал Гнета в Польше (52 и 27 участников), Алексей Александров был первым в эстонском Вильянди и в Кокчетаве (Казахстан), а в Астане – вторым. Сергей Азаров победил в Дейтоне (США). Никита Майоров взял «серебро» во французском Эвиане. Виталий Тетерев – бронзовый призер турнира в Греции (98 участников). В турнире по быстрым шахматам в минском РЦОПе призерами стали Юрий Борсук, Михаил Никитенко и Валерий Казаковский, в другом турнире там же – Виталий Мерибанов, Михаил Никитенко и Юрий Борсук. Мемориал А.Ройзмана в Минске собрал 121 участника, призовую тройку составили Сергей Жигалко (10 из 10!), Валерий Казаковский и Юрий Тихонов. Призерами турнира в Бресте стали Антон Сегодник, Дмитрий Буланов и Михаил Ящук, в Гродно – Андрей Малюш, Леонид Элькин и Наталья Кусенкова.

## Проверьте решения

Задача А.Михолапа от 28 июня: 1.Cd5! Первыми правильные ответы прислали В.Жукович (Минск), С.Полуян (Барановичи), В.Мелешко (Витебск). На ряд предыдущих заданий ответили Л.Колодко (Жодино), А.Литвинов (Минск).

**Вадим ЖИЛКО.**

В САДУ, В ОГОРОДЕ...

# Почему мельчают ягоды малины



Если хороший крупноплодный сорт малины вдруг до безобразия измельчал, значит, самое время провести корректировку применяемой агротехники. Измельчать может любой сорт малины, даже самый крупный, если дать возможность побегам загустить ряды. Обычно это случается, если садоводы пускают дело на самотек и малина растет так, как ей вздумается.

Если же садовод возьмется за ум и секатор, вырежет все отплодоносившие, мелкие и слабые побеги, прорежет междурядья шириной в 1 м и более, а полосы с побегами малины оставит не более 30–40 см шириной, то сорт вернет свое и ягоды снова станут крупными.

Измельчать ягоды малины могут и из-за чрезмерного старания. Так, если рыхлить почву вокруг малины слишком глубоко, то у нее будут повреждаться корни. В результате и побеги будут расти слабо, и ягода вырастет мельче обычного. Спасти ситуацию можно, если внести навоз и уменьшить глубину рыхлений до 3–5 см.

Ягоды малины уменьшаются и из-за нехватки питательных веществ. Конечно, малину не принято подкармливать. Считается, что мы ей все даем с золой и навозом, которые вносим рано весной. Но зачастую этого бывает мало. Чтобы угодить малине, подкармливать ее нужно один раз во время цветения: 50–40 г нитрофоски на 10 л воды, а перед созреванием ягоды – суперфосфатом и сернокислым калием: по 20 г на 10 л воды.

Очень плохо сказывается на урожае и накопление в малиннике болезней. Бороться с ними можно только на стадии крапивки. Для этого малину нужно опрыскать перед цветением Фуфаноном и Акробатом. Но этого недостаточно. Надо регулярно раз в неделю ходить и осматривать побеги, вырезая те, что с галлицей и следами болезней.

Все обрезки надо сжигать. Но самая частая причина измельчания малины совсем другая – истощение почвы из-за многолетнего выращивания малины на одном месте.

Действительно, малина при мощных подкормках, регулярных опрыскиваниях и правильном уходе может расти на одном месте много лет. Но если агротехника хромает, то переносить плантацию надо раз в шесть-восемь лет, каждый раз внося под посадку навоз: по 8–10 кг на 1 $м^2$ , и золу: по 0,5 л на 1 м.

Очень хорошо малина отзывается на траншейную посадку, когда копается траншея глубиной в два штыка лопаты, и каждый слой кидается на противоположную сторону. На дно траншеи укладывают навоз, минеральные удобрения, и все это добро прикрывают 10-сантиметровым слоем плодородной земли.

Сверху высаживают молодые саженцы малины, которые обрезают так, чтобы остались одни пеньки из двух почек. На такой перине малина плодоносит обильно до десяти лет практически без подкормок.

МЕДКОНСУЛЬТАЦИЯ

# Когда солнце не полезно

*Ученые выяснили, когда организм перестает вырабатывать витамин D.*



Витамин D играет важную роль в жизни человека. Большую его часть мы получаем под воздействием солнца, также – из продуктов питания, таких как жирная рыба, мясо, яйца. Витамин D придает бодрость, улучшает усвояемость кальция (который отвечает за крепкие кости, здоровые ногти и волосы), помогает сбросить лишние килограммы, а иногда – даже зачать ребенка. Но это не означает, что при любой возможности нужно стараться проводить на солнце максимум времени. Ученые выяснили: слишком большие дозы солнечного излучения имеют обратный эффект.

Переизбыток солнца заставляет организм прекратить вырабатывать витамин D и даже снижает его уровень, выяснили сотрудники University of Pernambuco Medical School благодаря недавнему исследованию. Эту закономерность обнаружили случайно врачи. Они заметили, что у людей, ежедневно находящихся на солнце, витамин D, как ни странно, находится в дефиците.

В исследовании приняли участие 1000 бразильцев в возрасте от 13 до 82 лет. Все они подвергались воздействиию солнца ежедневно, не используя солнцезащитных средств. Они также не принимали никаких добавок, содержащих витамин D. Используя шкалу Фицпатрика, определяющую тон кожи, врачи разделили их на несколько групп. Проанализировав также информацию о количестве проведенных на солнце часов, они выяснили: полученный темный оттенок кожи заблокировал производство витамина D в 72% случаев.

Таким образом, определить, что уже «хватит», можно по оттенку кожи. Легкий загар означает, что процесс выработки витамина D идет хорошо. А темный цвет кожи – что он заблокирован.

УЛЫБНИТЕСЬ...

* * *

– Фаечка, доча, тебе просто надо немножко влюбиться!

– Я вас умоляю, мама, в кого сейчас можно влюбиться?

– Ой, неужели так сложно найти жертву?..

* * *

У могилы на кладбище стоит мужчина и плачет:

– Зачем ты так рано ушел из жизни?

Его спрашивают:

– Это ваш родственник?

– Нет, это первый муж моей жены.

* * *

– Больной, почему вы не записываете, когда принимать лекарства – до, во время или после еды?

– Доктор, лекарств так много, что денег на еду уже все равно не остается…

* * *

– Скажите, а мне зарплату прописью писать или цифрами?

– Какая у тебя зарплата?

– 200 евро…

– Слезами пиши… слезами…





Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 22.08.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 28 020 экз. Заказ № 3177

